ГОД VI СТУДЗЕНЬ - ЛЮТЫ № 46
1952 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ДВУМЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЕ РЭЛІГІЙНАЕ ДУМКІ

## ЗЬМЕСТ



**BOŽYM ŠLACHAM**
**(SUR LA VOIE DIVINE)**
BULLETIN RELIGIEUX BIELORUSSIEN BIMESTRIEL
**Année VI.** **№ 46.** **Janvier-Fevrier 1952**
51, rue des Sts-Pères — PARIS - VIe

**Перадплата «Божым Шляхам» на 1951 г.**

| | За адзін нумар | На год |
|---|---|---|
| Францыя | 60 фр. | 350 фр. |
| Англія | 1 ш. 10 пэн. | 8 шыл. |
| Аргэнтына | 2 пэз. | 10 пэз. |
| Аўстралія | 2 ш. | 10 шыл. |
| З. Ш. А. | 20 цэн. | 1 дал. |
| Бэльгія | 8 б. фр. | 50 б. фр. |
| Данія | 1 д. кар. | 6 д. кар. |
| Канада | 20 цэн. | 1 дал. 20 |
| Нямеччына | 80 пф. | 5 н. м. |
| Швэцыя | 1 ш. кар. | 6 ш. кар. |

Грошы слаць на адрасы:

У ФРАНЦЫІ:

Chèque Postale : Paris c. 6287 44
R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, PARIS VI[e].

У АНГЛІІ:

Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.

У АРГЭНТЫНЕ:
Sr. Juzefovic Henryk, Calle Irala 1510 Dock Sud, BUENOS AIRES.

У АЎСТРАЛІІ:
Mr. Jackievicz Donat, 60, Fisher Str. East BRISBANE. Q-ld.

У БЭЛЬГІІ:
Mr. Vostrykau Michel, 19, Place Hoover, LOUVAIN.

У НЯМЕЧЧЫНЕ: Weissruthenischer Caritasdienst in Deutschland. (20b) Goslar/Harz, Sommerwohlenstrasse 1 A.

---

**НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» І «ФОНД ДОБРАЕ КНІЖКІ» СЁЛЕТА ПРЫСЛАЛІ:**

Бал-іч В. 350, Гры-іч С. 400, Захар-іч І. 1.000, Клім-ко Х. 350, Ку-ян А. 350, Лі-с С. 600, Літ-ак Э. 300, Лыс-ха М. 500, Мат-як С. 600, Н. Н. 3.500, С-ок М. 2.000, Спі-ак В. 300, Ул-кі В. 500, Шч-ук Я. 350, Юр-ык Р. 500, Юзэфовіч Г. (група Аргэнтына) 10.000 фр., Яцкевіч Д. (група Аўстралія) 3.880 фр.

**АТРЫМАНА:**

За мінулы год рэдакцыя «Божым шляхам» атрымала ў форме вымены наступныя газэты і часапісы:

Аб'еднаньне Нр., Нр. 1-10.
Бацькаўшчына Нр. Нр. 65-79.
Беларус Нр., Нр. 1-3.
Беларускі патрыёт Нр. Нр. 1-13.
Беларуская трыбуна Нр. Нр. 1-5.
Беларускі эмігрант Нр. Нр. 1-5.
Веда Нр. Нр. 1-4.
Весткі Б.А.Н.Р. Нр. 1.
За волю Нр. Нр. 1-7.
Зьніч Нр. Нр. 4-16.
Інфармацыйны Бюлетэнь СББ Нр. Нр. 10-12.
Моладзь Нр. Нр. 21-25.
На шляху Нр. 12.
Новае жыцьцё Нр. Нр. 7-10.
Патрыёт Нр. 6.
Рада кругу Нр. 1.
Сіла веры Нр. Нр. 3-4.
Рунь Нр. 2.
Царкоўны сьветач Нр. 1.
Юнак Нр. 4.
Вісник (Парыж) Нр. Нр. 61-63.
Вістник (Канада) Нр. Нр. 1-24.
Вісті Нр. Нр. 1-19.
Канадійський ранок Нр. Нр. 720-742.
Наш клич Нр. Нр. 1-8.
Народне Слово Нр. Нр. 1-51.
Слідами малої святої Нр. Нр. 1-4.
Україна Нр. Нр. 4-5.
Українець-Час Нр. Нр. 1-50.
Український вістник Нр. Нр. 3-4.
Український голос Нр. Нр. 1-52.
Шлях Нр. Нр. 1-51.
Наш Приход Нр. 11.
Православный Белорусс Нр. 13.
Русский католический вестник Нр. Нр. 2-4.
Christianitas Nr. 9.
Oriente Chritiano Nr.Nr. 1—12.
Vers l'unité chrétienne Nr.Nr. 30—38.
L'Observateur catholique Nr.Nr. 9—40.
Irenicon Nr.Nr. 1—4. Tome XXIV.
Idziemy Nr. 2.
Katholischer Digest Nr.Nr. 1—12.
S.I.C.O. Nr.Nr. 114—128.
Newsletter from behind the iron curtain Nr.Nr. 207—258.
Unitas Nr. 1.

---

**УВАГА!**

Усю карэспандэнцыю для рэдакцыі «Божым шляхам» просіцца высылаць на вышэйпаданы асаблісты адрас адказнога рэдактара а. Л. Гарошка.

**Рэдакцыя.**

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год VI. СТУДЗЕНЬ-ЛЮТЫ. 1952. № 46.

# Заўсёды наперад!

Колькі ў прэсе зьяўляецца розных прыгожых заклікаў, але як мала іх успрыймаюць! Дык ці варта пасьля гэтага траціць час і паперу, каб паўтараць іх? Ці варта агулам апэляваць да чытачоў?

Замест адказу на пынаньні прыгадаем дробную гісторыю з сьляпым пакутнікам. Даўно гэта было, калі жыў той сьляпы пакутнік. Пад старасьць ён вышаў з сваё пустэлі, знашоў сабе хлапчыну-праведніка і хадзіў з ім ад вёскі да вёскі, заклікаючы людзей да лепшага жыцьця. Аднойчы праходзячы праз горы, хлапчына ўбачыў ля дарогі прыгожае возера і захацеў пакупацца, а ведаючы напярод, што пакутнік яму не дазволіць гэткае прыемнасьці, бо сьпяшаецца ў далёкую вёску, дык пачаў хлусіць яму, кажучы, што тут ёсьць вялікая таўпа народу і што варта да іх азвацца. Хлюпат хваль возера і шум хмызьнякоў між гораў сапраўды былі падобныя да гоману вялікае таўпы.

І азваўся пакутнік. Не шкадуючы свайго красамоўства і голасу, ён клікаў да лепшага жыцьця, а навокал ня было відаць ні жывое душы... Але як-жа зьдзівіўся хлапчына, калі вярнуўшыся з возера, убачыў ля ног пакутніка нейкага чалавека. Гэта быў разбойнік, які ў прыдарожным кусьце слухаў уважна дзіўнае казаньне сьляпога пакутніка і ўспрыняў яго да свайго сэрца. Неспадзявана заклік трапіў на ўрадлівую глебу.

Падобна здараецца і з прэсавымі заклікамі; няма сумніву, што шмат іх ідзе на вецер, але ёсьць і такія, якія трапляюць на ўрадлівую глебу сэрцаў, хоць некаторых чытачоў.

Маючы гэткую сьведамасьць пакінем на сумленьні чытачоў адказнасьць за ўспрыняцьце не чагосьці новага, але закліку самога Ісуса Хрыста, з якім Ён зьвяртаўся да ўсіх людзей агулам, а да вернікаў у асаблівасьці: «Будзьце дасканалымі, як Айцец ваш нябесны ёсьць дасканалы» (Мат. V, 48).

Такое вялікае дамаганьне боскае дасканаласьці ад нас, немачных людзей, шмат каму выдаецца натолькі неасягальным, што нават ня хочуць яго слухаць. Тымчасам аднак гэты ідэал ёсьць сапраўднаю мэтаю людзкога жыцьця. Бо-ж на тое чалавек жыве на зямлі, каб канчаткова заслужыць сабе вечнае жыцьцё ў небе, а каб увайсці туды, трэба набыць перш хрысьціянскія цноты, значыць дасканаласьць хрысьціянскага жыцьця.

Адна з прычынаў трагізму сучаснага жыцьця, ёсьць агульная мода думаць, быццам неба прызначана толькі для нейкіх надзвычайных аскетаў. Гэта сапраўды пякельныя падшэпты сучаснаму людзтву, каб зьняверыць чалавека ў асягненьні вечнага шчасьця. Наперакор гэтым падшэптам неабходна ясна ўсьведаміць, што неба створана Богам для ўсіх людзей і кожны можа і мусіць туды ўвайсьці, а пекла ёсьць толькі караю для тых, хто самавольна ўхіляецца ад гэтага абавязку, хто ўцякае на бездарожжа і пазваляе граховінай твані засмактаць сябе.

Веліч ідэалу нас не павінна застрашваць і зьняверваць, наадварот, яна павінна падбадзёрваць. Божым правам кожная жывая істота зьяўляецца на сьвет у зарадковым стане і мусіць паволі расьці, разьвівацца, пакуль не дасьпее. Падобна і ў духовым жыцьці чалавека. Ніхто не радзіўся сьвятым (ня кажучы аб Хрысьце) і дасканалым, а ўсе, што сталіся сьвятымі, мусілі асягнуць дасканаласьць павольнаю і заўсёднаю працаю над сабою.

У духовым жыцьці ёсьць адна вельмі важная азнака, што ў духовай працы над сабою нельга затрымацца на адным мейсцы, але трэба заўсёды йсьці ўпарод. Калі ў фізычным росьце бываюць мамэнты перапынку, дык у духовым жыцьці затрымкі немагчымыя; хто затрымаецца, адразу пачне падаць уніз. Аб гэтым Хрыстос вобразна казаў: «Хто не са Мною, той процi Мяне, і хто ня зьбірае са Мною, той раскідае» (Лук. XI, 2 ). На іншым мейсцы Хрыстос яшчэ выразьней кажа, што ў духовым поступе нават нельга аглядацца ўзад: «Ніхто ня годны да Божага валадарства, хто ўзлажыўшы руку сваю на плуг, аглядаецца ўзад» (Лук. IX, 62).

Вышэйсказанае можна каротка падсумаваць так: кожны чалавек павінен імкнуцца да асягненьня духовае дасканаласьці і на шляху да яе нельга затрымоўвацца. Але тут паўстае пытаньне: як практычна выканаць гэта?

Высокія ідэалы падобныя да далёкае дарогі. Ідучы ў далёкую дарогу, нельга адразу пачынаць падарожжа бягом, бо хутка можна прыстаць. Нашы духовыя ідэалы ня толкі далёкія, але і вы-

сокія, яны сягаюць аж нябесных вышыняў, да іх трэба йсці і ўзьлятаць. Калі хто адразу зашырока разгорнае свае крыльлі духа, дык цьвёрдае жыцьцё абломіць іх і ўпадзе чалавек уніз, у чорнае зьняверра. Бяз лішняга посьпеху, але і без адкладаньня, трэба пачынаць сваю духовую працу ад таго, што перш усьведаміць сабе ўсе свае дрэнныя рысы характару і адну за другою выправіць іх. Нельга адразу брацца правіць усе свае дрэнныя нахілы — гэта была-б праца падобная да прыказковага цыгана, які хацеў за адным махам вырваць увесь лес.

Прыгожа глядзець на загоны ільну, калі яны чыста выпаланы, але колькі каля такога загону мусілі папрацаваць работніцы, каб павыбіраць адтуль пустазельле, вырываючы каліўца за каліўцам! Падобна трэба палоць адзін за адным дрэнныя навыкі.

Ачышчаную ад дрэнных нораваў душу, трэба ўпрыгожыць цнотамі. Каб стацца добрым вернікам, мала яшчэ не рабіць дрэннага, трэба ўмець і хацець і выконваць добрыя ўчынкі. Каб магчы жыць, мала яшчэ ўнікаць сьмяротных небясьпекаў, трэба штодзенна аджыўляцца. Але тут зноў-жа нельга адразу ўганяцца за ўсімі цнотамі. Гэта аднак ня значыць, што зьвярнуўшы большую ўвагу на нейкую адну цноту, можна зусім не клапаціцца аб іншых — так паступаючы, ніводнае цноты не асягнецца, бо хрысьціянскія цноты зьвязаны між сабою быццам сетка; за каторае-б вочка яе не пацягнуў, узьдымеш яе ўсю, толькі тое вочка, за якое пацягнеш, будзе ўзьнята крыху вышэй за іншыя.

Такая праца вымагае шмат часу, гэта праўда, але чым больш хто ў духовай працы паступае ўпярод, тым больш мацнее. Фізычна чалавек на старасьць слабне, але духова наадварот, калі хто не змарнаваў сваіх гадоў на пустое блуканьне па сьвеце, але выкарыстаў іх згодна з Божаю воляй, той бяз сумніву асягне нябесныя вышыні дасканаласьці.

Уканцы трэба заўважыць, што справа духовага жыцьця і развою ў больш канкрэтных формах на толькі шырокая і можа мець на толькі розныя своеасаблівыя праявы і формы, што для належнага кіраваньня сваім духовым жыцьцём найлепш мець нейкага сталага духовага настаўніка, перад якім можна з поўным даверам абгаварыць усе свае сумнівы, усе цяжкасьці і ўсе патрэбы. Супольнымі сіламі і з добрым праваднікам заўсёды лягчэй і бесьпячней узыходзіць на высокую гору; на вышыні хрысьціянскіх ідэалаў узыходзіцца падобным спосабам.

**а. Леў.**

# Рэлігійныя крывулі нашае інтэлігэнцыі

Неадзін, прачытаўшы гэтую тэму, перш чым чытаць сам артыкул, запытае: чаму спэцыяльна зьвяртаецца ўвага на інтэлігэнцыю ў адносінах да рэлігіі? Вось чаму: інтэлігэнцыя сілаю факту мусіць займаць адказныя становішчы, дзеля таго перад сваім сумленьнем, перад народам і перад Богам так у грамадзкіх дачыненьнях, як і ў рэлігійных нясе большую адказнасьць, чым іншыя сьмяротнікі. Сапраўдны інтэлігэнт мусіць быць да пэўнае ступені сьветачам у сваім асяродзьдзі і прыкладам для іншых.

Калі такі сьветач сьвеціць ясна, калі ягоныя паводзіны ёсьць узорнымі і прыцягваючымі — дык інтэлігэнт стаецца багаславенствам для свайго асяродзьдзя. Калі-ж наадварот ён нясе згоршаньне, сее закалоты — тады стаецца праклятцем. Грозныя словы Хрыста: «Хто згоршыць аднаго з малых гэтых, які веруе ў Мяне, таму лягчэй было-б, калі-б яму павесілі млынавы камень на шыю і ўтапілі-б у глыбіні марской» (Мат. XVIII, 6), адносяцца да ўсіх, а да інтэлігэнцыі ў асаблівы спосаб, бо інтэлігэнцыя зьяўляецца элітай народу, а эліта гэта такія людзі, аб якіх беларускі народ кажа: «ім або першая чарка, або першая палка». Гэтую праўду неабходна сабе ясна ўсьведаміць, бо вось і адносна нашага эміграцыйнага жыцьця трэба сказаць, што хоць уся эміграцыя нясе адказнасьць за сябе, аднак адказнасьць інтэлігэнцыі ёсьць найбольшай.

І сапраўды: гэта інтэлігэнцыя найбольш інфармуе вольны сьвет аб палажэньні на бацькаўшчыне, аб Беларусі агулам, аб духовым жыцьці і патрэбах беларускага народу. Але чамусьці вольны сьвет мала верыць вусным інфармацыям. Апошнім часам на старонках прэсы і ў гутарках можна стрэнуць і пачуць нараканьні на тое, што «нам ня вераць», «нас ня слухаюць». Нядобра, што ня вераць, але падумайма толькі, як могуць верыць людзям, якія наракаюць, што на бацькаўшчыне няма свабоды арганізацыяў, а самі тут у вольным сьвеце мала цікавяцца арганізацыйным жыцьцём; наракаюць, што на бацькаўшчыне лютуе прасьледаваньне рэлігіі, а самі тут у вольным сьвеце жывуць безрэлігійным жыцьцём; наракаюць, што на бацькаўшчыне зруйнаваны сьвятыні, а самі тут у вольным сьвеце нават у тыя нешматлікія беларускія сьвятыні, якія адчынена з вялікімі цяжкасьцямі, амаль ніколі не заглядаюць?

Калі ў некага ўчынкі супярэчаць словам, такому чалавеку ніхто не паверыць. Мала сказаць слова, трэба каб учынак пацьвярдзіў яго. Мала сказаць, трэба паказаць, а што пакажа той, хто мае духовую паражнечу? У даным выпадку нас найбольш цікавіць рэлігійнае жыцьцё інтэлігэнцыі, бо ўважаем, што такая інтэлігэнцыя можа быць сапраўднаю элітаю народу, якая мае поўнае духовае жыцьцё. Вобразна кажучы, духовае жыцьцё чалавека падобна да нейкае пасуды; ка-

лі пасуда мае роўныя берагі, яе можна напоўніць аж да верху, калі мае ў дне дзірку — дарэмная праца; такое судзіны ніколі не напоўніш. Духовае жыцьцё інтэлігэнцыі-эліты павінна праменяваць на вонках, яно мусіць пераліваяцца, аж праз берагі быццам з жарала глыбокае крыніцы і тварыць дабрадзейную плынь для іншых. А такое нутранае жыцьцё немагчымае бяз рэлігіі.

Мы лічым, што, як душа ажыўляе цела і зьяўляецца істотнай часткай чалавека, так сама рэлігія ёсьць істотнай часткай так паасобнага чалавека ,як і ўсяго грамадзтва. І тут мусім спытацца: як маецца справа з рэлігійным узгадаваньнем беларускае інтэлігэнцыі?

Узгадоўваюць чалавека: сям'я, школа і Царква. У ідэальным парадку ўсе тэтыя ўстановы павінны супрацоўнічаць і дапаўняцца. Сям'я запачаткоўвае жыцьцё чалавека, а ў далейшым жывіць, апранае яго і дае першае паясьненьне навакольных падзеяў; школа йдзе на дапамогу бацьком у справе ўзгадаваньня, але перадусім навучае; Царква з Божае волі ёсьць настаўніцай рэлігіі і выплываючых з яе адносінаў да Бога, да бліжняга і да ўсяго грамадзтва.

Як ня сумна, але некалькі пакаленьняў беларускае інтэлігэнцыі ў час самага буйнага нашага адраджэньня, жывучы ў сваёй сям'і, змушаны былі карыстацца чужою школаю, пры варожай нам дзяржаўнасьці і фармаваць свой рэлігійны сьветагляд паводля больш-менш хрысьціянскіх прынцыпаў, але падаваных, як пажыву запраўленую моцным чужым нацыянальным сосам, што было моцна адпіхаючым дзейнікам. Гэтак было ў царскай Расеі, гэтак было пад Польшчай, але куды горш яшчэ было ў БССР, дзе прасьледаваўся ўсякі рэлігійны сьветагляд, падкопвалася сямейнае жыцьцё і руйнаваліся асновы грамадзкага ладу. Ці-ж можна тады дзівіцца, што некаторыя з нашае інтэлігэнцыі ня знаюць нават асноўных прынцыпаў хрысьціянства?

Усё вышэй сказанае ў аднолькавай меры адносіцца так да каталікоў, як і да праваслаўных.

Магчыма, што пішучы гэтыя радкі, аўтар выкліча супраць сябе нямала розных закідаў, вось-жа сьцьвярджаем, што мэтаю гэтага артыкулу ня ёсьць вышукваць дакорныя закіды пад адрасам інтэлігэнцыі, але ў меру сіл і магчымасьцяў стацца памоцнікам сваім братом. Калісьці філязоф Спіноза казаў: «Ня дзівуйся, не абурайся, але зразумей», — выбіраем гэты сказ за мотто для артыкулу, у якім хочам парушыць найбольш важныя, але і найбольш заблытаныя ў нас пытаньні, да якіх належаць: рэлігія, сьв. Пісаньне, сужэнства, Ватыкан, рэлігійныя практыкі.

## Рэлігія.

Звычайна слова рэлігія гаворыць шмат аб чым. У некаторых яно выклікае вобраз сьвятыні, сьвятара, крыжа, кадзіла ці ружанца; у іншых хрост, шлюб і пад. Калі йдзе аб інтэлігэнцыю, дык адразу вырынае праблема БАП Царквы, праслаўтае Вуніі, Рыму.

Нашы дзеячы ў гутарках аб рэлігіі дамагаюцца «беларускае» Царквы, беларускага сьвятара, але трудна пачуць у гутарках, ці спаткаць у прэсе выразна сфармаванага рэлігійнага сьветагляду, у імя якога ставяцца самыя дамаганьні. Гэтым ня хочам сказаць, быццам адносна рэлігіі нельга ставіць вымаганьняў — наадварот, вымаганьні ставіць можна, а часам нават трэба, толькі перш трэба сабе ўсьведаміць асноўныя прынцыпы, каб не патаптаць іх. Перш чымся будаваць сьвятыню, трэба пераканацца ў яе мэтазгоднасьці і патрэбе. Якую вартасьць мае нейкая рэлігія, ці царква для таго, у каго высахла праўдзівая крыніца рэлігіі? Сьвятыня без сапраўднае рэлігіі, гэта цела бяз душы, гэта труп, які раней ці пазьней мусіць разлажыцца.

Тут неабходна зрабіць дакладнейшае паясьненьне слова «рэлігія», каб лепш разумець парушаную справу.

Рэлігія — слова лацінскага паходжаньня. Адны ўважаюць, што яно выводзіцца ад relegere або ад religere, што значыць адчытвать, разважаць, над нечым задумоўвацца. Іншыя ўважаюць, што рэлігія паходзіць ад лацінскага слова religare — зьвязваць. Абодва паясненьні можна прыняць, бо рэлігія здабываецца праз разважаньне, а хто яе здабудзе, уваходзіць у лучнасьць, зьвязок з Богам.

Што да зьместу самое рэлігіі, дык падаецца падвойная дэфініцыя. Калі браць пад увагу асобу, якая ўспрыймае рэлігію, тады рэлігіяй называецца пазнаньне і прызнаньне залежнасьці чалавека ад Найвышэйшае Асабовае істоты з чаго вынікаюць узаемныя адносіны. Вось-жа ў здабыцьці рэлігіі мусяць удзельнічаць і розум, і воля чалавека, бо пазнаньне ёсьць актам розуму, а прызнаньне ёсьць актам волі.

Калі браць пад увагу сам акт рэлігіі незалежна ад асобы, тады рэлігіяй называецца пэўная сума праўдаў і абрадаў, якімі накіроўваецца жыцьцё да Бога; сюды належаць: догмы — для людзкога розуму; маральныя правілы — для людзкое волі і культ, — якім аддаецца чэсьць і прызнаецца Бога за найвышэйшага Валадара.

Што да паходжаньня, дык рэлігія можа быць прыродная і надпрыродная. Прыроднай рэлігіяй называем тую, якая ня выходзіць за межы праўдаў, пазнаваных выключна розумам, а надпрыродная рэлігія гэта аб'яўленая самым Богам, яна мае ў сваім скарбе надпрыродныя праўды веры і надпрыродныя сродкі (ласку) да асягненьня вечнага жыцьця. Надпрыроднай рэлігіяй ёсьць рэлігія Старога і Новага Запавету.

Сёньня ёсьць шмат розных рэлігіяў, але праўдзівай ёсьць толькі адна, як адзін ёсьць Бог і адна можа быць праўда. Гэта аднак ня значыць,

што ўсе іншыя рэлігіі ёсьць з грунту фальшывыя. Амаль у кожнай рэлігіі ёсьць каліва праўды, але яно бывае зьмешанае з фальшывымі людзкімі выдумкамі.

Маркс усе рэлігіі назваў опіюм народу. Ленін — сівухай. Макіявельлі радзіў князём і валадаром прыкідвацца быць рэлігійнымі, але ня брацъ справы больш паважна...

Між беларускаю інтэлігэнцыяю на эміграцыі бадайшто няма ніводнага чалавека, які пайшоўбы за Марксам ці Макіявелім. Аднак большасьць нашае інтэлігэнцыі ня знае, ў чым ёсьць істота рэлігіі, мала цікавіцца гэтым пытаньнем і ў жыцьці астаецца абыякавай да рэлігіі. Факт гэты агульнаведамы, але хто яго парушыць, можа выклікаць супраць сябе розныя закіды, з якіх магчыма найлягчэйшымі будуць такія:

— Кіньце вы дурыць мне голаву!.. Няхай кожны Бога хваліць, як хоча і як знае, а ў маю душу вы са сваімі ботамі ня ўлазьце!..

Але ці гэткія і падобныя ім адказы ёсьць годнымі інтэлігэнта? Ясна што не, бо-ж гэта ёсьць наіўны выкрут, якім нехта стараецца закрыць сумную праўду.

Кажам сумную, бо яна сьведчыць аб крайняй абыякавасьці да рэлігіі. Да чаго можа прывесьці такая абыякавасьць, вымоўна сьведчаць падзеі ў Савецкім Саюзе. Тая хваля рэлігійнага прасьледаваньня, якая там праліла мора сьлёз і крыві, не зьявілася неспадзевана, яна мае свае глыбокія карані ў той абыякавасьці да рэлігіі, якая была запанавала перад рэвалюцыяй у кругох тамтэйшае інтэлігэнцыі. Вось дзеля чаго сьв. Пісаньне грозным словам адзываецца аб абыякавасьці: «І анёлу Ляодыкійскае Царквы напішу... ведаю ўчынкі твае, што ты ані сьцюдзённы, ані гарачы, ...дык вось дзеля гэтага, што ты летні, ані сьцюдзённы, ані гарачы, Я выблюю цябе з вуснаў Маіх (Апок. III, 14-15). Калі пачынаюць спраўджвацца гэтыя словы, жыцьцё прымае вельмі цяжкія формы. Тады пад гоман енкаў і нараканьняў на кожным кроку можна пераканацца, што рэлігія ня ёсьць толькі асабістай справай адзінкі, але жыцьцёваю справаю ўсяго народу, усяго людзтва і што адносна яе нельга быць абыякавым.

Да рэлігійнае праблемы можна падходзіць трымя шляхамі: гістарычным, псыхалягічным і паводля прынцыпаў мэтафізыкі — усе яны вядуць да аднае мэты і ўсе яны больш даступныя для інтэлігэнцыі, як для просталюдзьдзя.

Гісторыя даўно сказала сваё слова аб рэлігіі. Вось яно: Факт рэлігіі ёсьць паўсюдны і заўсёдны. Яшчэ ня было на сьвеце безрэлігійнага народу. Гэты факт заўважана даўно. Ужо перад Хрыстом рымскі дзеяч і філязоф Цыцэрон (104-43) казаў: «Ёсьць на сьвеце народы, якія ня маюць гарадоў, умацаваньняў, мураў, але няма такога народу на ўсім сьвеце, які-б ня меў рэлігіі».

Гістарычным мэтадам сьцьверджана, што кожная з рэлігіяў мае ў сабе тры дзейнікі: праўды, ў якія трэба верыць — гэта значыць догмы; нормы, якіх трэба прытрымоўвацца ў жыцьці — гэта этычна-маральны элемэнт; культ, якім трэба зьвяртацца да Бога і прыносяць Яму ахвяры — гэта абрадавы элемэнт.

Заўважым пры нагодзе, што ў Савецкім Саюзе талеруецца толькі гэты апошні найменш важны складнік рэлігіі. Там вернікам пакідаюць яшчэ магчымасьць карыстацца прыгожымі абрадамі, але ім накідаюць нормы жыцьця і думаньня зусім супярэчныя рэлігіі.

Аднак як нельга падзяліць чалавека, так нельга падзяліць і рэлігіі, якая абымае ўсяго чалавека; для людзкога розуму яна дае абсалютную праўду, што адзіная мае магчымасьць заспакоіць няўпынны гон чалавека да пазнаньня сьвету; абымае людзкую волю, даючы ёй абсалютнае дабро, якога так прагна шукае людзкая істота; заспакойвае людзкія пачуцьці, якія сустрэнуўшы праўду, дабро і красу, даюць чалавеку радасьць чыстых перажываньняў.

Ёсьць шмат рэлігійных праўдаў, якія магчыма пазнаць розумам, але неабходнаю перадумоваю да пазнаньня ёсьць глыбокая пакора і шчырая воля. Людзі прывярэдліныя і амбітныя праўды ня сьцямяць. Каб стацца хрысьціянінам патрэбна яшчэ асобная Божая помач, што называецца ласкаю, але яна так-жа вымагае пакоры: «Гордым Бог праціўіцца, а пакорным дае ласку» (Якаў IV, 6).

На гэтым мейсцы мусім заўважыць, што тут толькі парушаюцца некаторыя важнейшыя рэлігійныя праблемы, але абгаварыць іх асноўна ў рамах часапісных артыкулаў немагчыма. Тут перадусім даецца матэрыял для развагі. Калі разважаючы над закранеными праблемамі, нехта натрапіць на розныя няяснасьці і цяжкасьці, дык найлепшаю радаю ў гэткім выпадку, знайсьці такога сьвятара, якому можна шчыра выказаць усе свае закіды і цяжкасьці адносна рэлігіі — гэта найлепшы спосаб знайсьці выясьненьне. Не ад рэчы будзе заўважыць, што жыцьцё штодзенна прыносіць багаты матэрыял для разважаньня. Зьвернем увагу на такі факт. Калі ў Савецкім Саюзе пачалі масава зьнікаць сьвятыні з гарадоў і вёсак, адначасна пачало зьнікаць ўсё, што дарага для чалавека: зьнікла свабода, сямейнае шчасьце, штодзенны хлеб, вопратка, радасьць. Затое зьявіліся шматлікія, дротам абведзеныя лягэры і ў іх мільёны катаржнікаў, якія чакаюць на сьмерць, як на ласку.

Глыбокую праўду кажа беларуская прыказка: бяз Бога ні да парога, а з Богам хоць за мора.

**а. Ч. Сіповіч.**

(Далей будзе).

# Заклік Сьвяцейшага Айца

Напярэдадні сьвята аб'яўленьня Божае Маці ў Люрд 10.2 г.г. Сьвяцейшы Айцец Пій XII зьвярнуўся па радыё да рымлянаў, а разам з імі да ўсяго сьвету з гарачым заклікам атрэсьціся з абыякавасьці і аднавіць хрысьціянскае жыцьцё. Падаём важнейшыя мейсцы закліку.

Дарагія сыны і дочкі Рыму, ад шчырага сэрца скіроўваем да вас гэты заклік; ад сэрца занепакоенага доўгім трываньнем паважных небясьпекаў бяз пробліскаў палепшаньня з аднаго боку, а з другога дзеля вельмі пашыранай абыякавасьці, якая паўстрымоўвае многіх ад распачацьця таго павароту да Ісуса Хрыста, да Царквы, да хрысьціянскага жыцьця — на што мы часта паказвалі, як на выращаючы сродак супраць агульнага крызысу, які ўстрасае сьветам. Але давер знайсьці ў вас пацеху зразуменьня і моцную гатоўнасьць на чыну заахвоціла нас адчыніць перад вамі нашу душу. Кліч прабуды з нашых айцоўскіх і пастырскіх вуснаў хай даляціць сёньня да вас, ад нас, што ня можам астацца нямымі і бязьдзейнымі перад такім сьветам, які душы і цела, добрых і благіх, цывілізацыі і народы — нясьведама вядзе шляхамі, якія йдуць у пропасьць. Пачуцьцё нашае адказнасьці перад Богам вымагае ад нас спрабаваць усе спосабы, узяцца за ўсе магчымасьці, каб толькі заашчадзіць людзкі род ад так страшнае пагражаючае катастрофы.

...Ня ёсьць вам няведамым, што куды большых разьмераў і страшнейшыя чымся гібельная паветрая і землятрусы зьяўляюцца небясьпекі, якія ўсьцяж зьвісаюць над сёньнешнім пакаленьнем, і тое, што трываньне гэтае пагрозы пачынае прыводзіць народы да нячуласьці і абыякавасьці амаль да ўсяго. Ці-ж гэта ня ёсьць грознаю азнакаю нясканчанага, але тым ня менш неаслабленага крызысу, які прыводзіць да сполаху празорлівых людзей?

Аднавіўшы тады зварот да Божае ласкавасьці і міласэрнасьці Найсьв. Дзевы Марыі, неабходна, каб кожны вернік, кожны чалавек добрае волі, пераэгзамінаваў сябе, з гатоўнасьцю годнаю вялікіх хвілінаў у гісторыі людзтва, што ён асабіста можа і павінен рабіць, які можа ўнесьці ўклад у збавенныя Божыя пляны, каб прыйсьці на помач сьвету, што сёньня йдзе шляхам загубы.

Трываньне агульнага палажэньня, аб якім мы бяз хістаньня можам сказаць, што яно кожнае хвіліны можа выклікаць выбух, а ягоныя прычыны трэба шукаць у рэлігійнай сьцюдзённасьці вялікае колькасьці людзей, у зьніжэньні маральнага ўзроўню публічнага і прыватнага жыцьця, у сыстэматычным затручваньні простых душаў, каторым атрута была ўшчэплена пасьля зьнячуленьня іхняга паняцьця праўдзівай вольнасьці — усё гэта не павінна абезуладніць добрых і не рабіць іх бязьдзейнымі глядачамі застрашваючае будучыні.

...Настаў час, дарагія сыны! Час ставіць рашучыя крокі; час паўстаць з няшчаснага летаргу; час, каб усе добрыя, усе каму ляжыць на сэрцы доля сьвету, пазнаць сябе ўзаемна і згуртавацца ў шчыльныя рады; настаў час, каб паўтарыць за апосталам: «Бо ўжо ёсьць гадзіна, каб мы абудзіліся са сну» (Рым. XIII, 11), настаў час абудзіцца, бо набліжаецца наша збаўленьне!

Увесь сьвет патрабуе асноўнае абновы, сьвет, які трэба пераманіць з дзікага ў людзкі, з людзкога ў Божы; гэта значыць паводля Боскага сэрца. Мільёны людзей дамагаюцца зьмены арыентацыі і скіроўваюць свае вочы на Хрыстову Царкву, як на адзіную ўстанову, якая можа непахісна трымаць стырно так вялікага прадпрыемства і ўмее шанаваць людзкую вольнасьць, ды просяць яе кіраўніцтва ня толькі словамі, але больш яшчэ пралітымі сьлязамі, паказваючы на аграмадныя магільнікі, якія зарганізавала нянавісьць, а запоўніла іх армія.

...Ня час цяпер на дыспуты, на шуканьні новых прынцыпаў, на вызначэньне новых мэтаў. Адны і другія ўжо ведамыя і ў сутнасьці прынятыя, бо іх навучыў Хрыстос, а выясьніла іх векавою апрацоўкай Царква, а Найвышэйшыя Архірэі датарнавалі іх да сучасных абставін — яны чакаюць толькі аднаго: канкрэтнага ажыцьцяўленьня.

...Няхай будзе зусім ясна, дарагія сыны, што ў корані сучаснага зла і яго сумных наступстваў не знаходзіцца неперамоглая няведа вечных прызначэньняў чалавека і тых шляхоў якімі можна іх асягнуць, як гэта было ў дахрысьціянскіх часох, або і цяпер у паганскіх краінах, але коранем зла ёсьць летарг духа, анэмія волі, сьцюдзённасьць сэрцаў. Людзі, заражаныя тэтымі хваробамі, каб апраўдаць сябе, стараюцца ахінуцца старадаўнаю цемраю і шукаюць выкруту ў сучасных і старадаўных памылках. Вось-жа трэба ўздзейнічаць на іх волю...

— Каб-жа дзейнасьць, да якое мы вас душпастыраў і вернікаў сёньня заахвочваем, адлюстроўвала ў сабе дзейнасьць Божую: каб была прасьвячаючаю і задзіночваючаю, дабрадзейнаю і поўнаю любові...»

# Найстарэйшыя хрысьціянскія сьвятыні на Беларусі ў X-XII ст.

(Заканчэньне).

### Віцебскія сьвятыні.

Паводля мяйсцовых пераказаў першая хрысьціянская сьвятыня ў Віцебску мела быць пабудавана ўжо у 974 г., значыць яшчэ перад усеагульным прыняцьцем хрысьціянства, але ніякіх дакладнейшых вестак аб той сьвятыні не захавалася. Праўдападобна гэта была дзеравянная царква і на яе мейсцы ў XII в. выбудавана мураваную царкву **Дабравешчаньня,** якая адноўленая Альгердам у 1332 г. захавалася аж да нашых дзён і сёньня гэта адзіная сьвятыня на ўсю Беларусь, якая знаходзіцца ў сьпісе архітэктурных памятак, якія падлягаюць ахароне і вывучэньню. Для гісторыі беларускае архітэктуры значэньне царквы Дабравешчаньняаграмаднае, бо яна ўносіць паважны ўклад у той новы будаўнічы кірунак, па якім ішла на Беларусі пераапрацоўка старога будаўнічага стылю крыжакупальных сьвятыняў, запачаткаванага ў Полацку. Стыль царквы Дабравешчаньня рве вязі з прынесенымі стылямі і ўносіць новыя вартасьці ў будаўніцтва.



**Плян царквы Дабравешчаньня ў Віцебску паводля А. М. Паўлінава.**

Як бачна з залучанага тут пляну, будынак царквы Дабравешчаньня значна выцягваецца ўздоўж, сярэдняя нава пашыраецца коштам бакавых. На ўсходзе ёсьць паўкруглая масыўная апсыда, а бочныя апсыды хаваюцца ў кутных частках усходняе сьцяны і навонках ня выступаюць. Фасад царквы раўнамерна дзеліцца плоскімі лапаткамі на чатыры часьці. Унутры яна мае шэсьць слупоў, тры апсыды і адны хоры. Над царквою высіцца адзін купал. Кладка сьцен у ёй вельмі цікавая, бо цэгла чаргуецца з жаўтаватым вапеньнікам, праз гэта выгляд сьцен ажыўляецца, бо звонку сьнены былі неатынкаванымі.

Адносна своеасаблівасьцяў царквы Дабравешчаньня зьвернемся да Алпатава і Брунава, ведамых ўжо з папярэдняга артыкулу. Яны кажуць: «Нутраны прастор царквы Дабравешчаньня асноўна перабудаваны (параўнаўча да крыжакупальных сьвятыняў), тут імкненьне да цэнтрапрыцягваючага ўняцьця прастору ўступае мейсца базылікальнаму прынцыпу. Галоўная нава распадаецца на чатыры амаль роўныя часткі, так што купал вельмі мала зьвязаны з заходнімі праслямі. Тут ясна выяўляецца ўплыў заходня-эўрапэйскае базылікі. Да таго сярэдняя нава ёсьць шмат шырэйшая ад бочных, падобна, як гэта можна бачыць у каўкаскіх будынках. Адначасна з распадзелам нутра на паасобныя каморачкі можна сьцьвердзіць упрашчэньне прастору, бо бочныя навы зусім падпарадкоўваюцца галоўнай сярэдняй наве... Аб беспасрэдным уплыве заходня-эўрапэйскае архітэктуры сьведчыць прастакутная форма бочных апсыдаў навонках, праз што моцна падчыркваецца вонкавы блёк будынку. Зрэштаю царква Дабравешчаньня ў Віцебску ёсьць яшчэ сапраўдным прадстаўніком вялікакняжага будаўніцтва, аб гэтым сьведчаць тонкія сьцены, структурная строгасьць будовы і прасторнае нутро».

Да гэтае характэрыстыкі яшчэ трэба дадаць, што ў параўнаньні да катэдры сьв. Спаса ў Полацку царква Дабравешчаньня ясьней выяўляе адступленьне ад бізантыйскага духу замкнёнасьці прастору ў будове, затое тут мацней адчуваецца ўплыў беларускага народнага мастацтва яшчэ з дахрысьціянскіх часоў. Словам тут маем дачыненьні з новым стылем. Алпатаў і Брунаў сьцьвярджаюць, што гэты беларускі стыль потым трапіў у Маскву і ў XV в. там разьвіўся да сваіх вяршыняў.

### Смаленскія сьвятыні.

Пераходзячы з чаргі да смаленскіх найстарэйшых рэлігійных будаўнічых памятак, варта зацеміць, што ў сучаснай савецкай літаратуры часта можна стрэнуць напады на агульнапрынятае раней нават расейскімі вучонымі становішча, якое залічала смаленскае будаўніцтва з XII і XIII в.в. да беларускага будаўніцтва нароўні з полацкім.

Відаць дзеля гэтага апошнім часам рабіліся інтэнзыўныя пошукі стараветных смаленскіх асаблівасьцяў, але яны наперакор савецкім спадзяваньням прынеслі яшчэ больш нязьбітых доказаў на тое, што «супольная рыса аб'ядноўвае смаленскія і беларускія раньнія гарадзішчы» (Кратк. Сооб. ИИМК АН СССР. Вып. XXXIX, с. 147). Мураваных помнікаў нельга схаваць ані пераіначыць, яны гавораць самі за сябе.

Калі была пабудавана найстарэйшая хрысьціянская сьвятыня ў Смаленску, няма ніякіх вестак, хоць няма сумніву, што там хрысьціянскія сьвятыні мусілі быць не пазьней, як у Полацку. Аднак дакумантальныя весткі аб першай мураванай сьвятыні ў Смаленску ёсьць толькі з 1101 г. — тады была збудавана катэдра **Усьпеньня Багародзіцы.** Прастаяла яна нядоўга і была зусім зруйнавана. Потым прыпадкам знойдзена рэшткі яе сьцен на Саборнай гары, але тэтыя руіны да сёньняastаюцца амаль недасьледаваныя. Ведама толькі, што яна была пабудувана з тонкае цэглы і плінтусаў, так, як і полацкія сьвятыні.



**Плян Барыса-Глебскае царквы на Сьмядыне ў Смаленску.**

У 1145-1146 г. смаленскі князь Расьціслаў Мсьціславіч (1127-1159) у сваёй рэзыдэнцыі на Сьмядыні пабудаваў вялікую царкву **Барыса і Глеба,** ад ея асталіся толькі руіны. Гэта была шасьцістоўпная царква. Яе фасад дзяліўся плоскімі лапаткамі з паўкалонкамі, падобна да гэткіх-жа лапаткаў у Полацку і Віцебску. Паверхня апсыдаў мела тонкія цягі. Потым з трох бакоў царквы былі дабудаваны галерэі — гэта мелі быць усыпальніцы смаленскіх князёў. Сьцены ўнутры царквы былі прыкрашаны фрэскамі. Падлога была вылажана прыгожымі каляровымі пліткамі — гэта вельмі характэрная азнака беларускіх сьвятыняў XI і XII в. Пліткі тварылі шматколерныя мазаікавыя ўзоры.

Недалёка ад Барысаглебскае царквы ёсьць



**Плян Малое царквы на Сьмядыне ў Смаленску (сьв. Васілія?).**

руіны невялікае царквы, аб якой захавалася так мала вестак, што нават няведамы яе назоў. Дагадваюцца, што гэта царква **сьв. Васілія,** а звычайна яе называюць **малая царква на Сьмядыне.** Гэта амаль квадратны будынак з трымя апсыдамі і чатырмя слупамі ўнутры. Яе фасад падзелены лапаткамі з паўкалонкамі такое-ж формы, як у катэдры сьв. Спаса. У Гондіюса захавалася мініятура гэтае царквы, з якое бачна, што яе вокны былі разьмешчаны няроўна, сярэдняе ўздымалася над бакавымі. Дах быў валавяны і ляжаў на скляпеньні.

Вельмі падобнаю ў пляне да малое царквы на Сьмядыне была царква **ап-аў Пятра і Паўла.** Пабудавана яна каля 1146 г., мела тры апсыды і чатыры слупы ўнутры, але да таго яшчэ мела хоры, у якіх былі паасобныя малельні для багацейшых вернікаў. Фасад царквы падзелены характэрнымі для тагачаснага беларускага будаўніцтва лапаткамі з паўкалонкамі. Варта ўвагі, што гэтая царква знаходзіцца цяпер у сьпіску будынкаў, якія намечаны для рэстаўрацыі.



**Плян Петра-Паўлаўскае царквы ў Смаленску паводле І. М. Хозерова.**



**Плян царквы сьв. Івана Багаслова ў Смаленску паводле І. М. Хозерова.**

Яшчэ больш падобная да малое сьмядынскае царквы ёсьць царква **сьв. Івана Багаслова,** пабудаваная ў другой палавіне XII ст. Яна мае тры апсыды, а ўнутры чатыры крыжалопасныя слупы, але фасад акрамя пілястраў з паўкалонкамі яшчэ прыкрашаны крыжамі і другімі ўзорамі, выложанымі з цэглы. Да ўсходніх вуглоў царквы потым былі дароблены прыбудоўкі, у якіх мясьціліся князёўскія грабавікі.

Асаблівую ўвагу зьвяртае на сябе царква **арханёла Міхаіла,** або так зв. **Сьвірская,** пабудаваная смаленскім князем Давыдам Расьціславічам у 1191-1194 г. Плян царквы крыжападобны. Рамёны крыжу творацца прытворамі з трох бакоў і выцягнутаю апсыдаю з усходняга боку. Вельмі характэрнаю азнакаю будынку ёсьць ягоная стоцьнасьць, асабліва гэта падчыркваюць складаныя пілястры, якія твораць імклівыя пучкі стоцьных лініяў, што цягнуць за сабою ўвысь вока, гладача — падобнае зьявішча назіраецца ў тагачасным заходня-эўрапэйскім раманскім стылі, а яшчэ больш у пазьнейшым готычным стылі. Нутраны прастор царквы азначаўся свабодаю і вышынёю. Гэтая царква разам з Петрапаўлаўскаю знаходзіцца ў сьпісе архітэктурных памяткаў, якія намечаны для рэстаўрацыі.



**Плян Царквы архан. Міхаіла «Сьвірскае» паводле І. М. Хозерова.**

Часта ўспамінаныя Алпатаў і Брунаў так характэрызуюць Сьвірскую царкву: «Тут маем дачыненьні з удасканаленым вялікакняжым мастацтвам, аб гэтым сьведчаць: далёкі нутраны прастор і адносіны між вонкавымі і нутранымі размерамі будынку. Значэньне Сьвірскае царквы палягае на тым, што ў ёй пераасэнсоўлены ў духу арыстакратычнага мастацтва тыя новыя прынцыпы будаўнічага стылю, якія прыняла сьв. Еўфрасіня, праз што ў гэтай царкве асягнена паслядоўную сынтэзу абодвых стыляў. Галоўныя часьці ў гэтай царкве паўтараюць тыпічныя азнакі з царквы Дабравешчаньня ў Віцебску і катэдры сьв. Спаса ў Полацку з даданьнем бочных прастакутных апсыдаў. З гледзішча тыпалёгічных досьледаў нельга сумнявацца аб блізкай сувязі гэтых трох будынкаў. Бочныя апсыды крыху ніжэйшыя, як сярэдняя, іх вышыня роўная тром прытворам, якія зноў-жа адпаведныя да вышыні сярэдняе часткі сьцяны галоўнае часьці сьвятыні».

Коратка кажучы, стыль Сьвірскае царквы можна назваць гарманійнаю сынтэзаю бізантыйскага, раманскага і старабеларускага стыляў.

Усе названыя тут смаленскія сьвятыні, пабудаваны з тонкае цэглы (3-4 цм.) квадратнае формы, перакладанае тоўстым пластам вапны. Часам у скляпеньнях устаўляліся гліняныя збанкі. На цэглах сустракаюцца выцісьненыя знакі цаглярняў.

Высокая своеасаблівая будаўнічая тэхніка, якую бачна ў смаленскіх сьвятынях, сьведчыць, што яна ёсьць вытварам мяйсцовых дойлідаў. Нажаль іхныя імёны няведамыя, затое іхны ўплыў расходзіўся далёка па суседніх гарадох і княствах.

### Барысаўская царква.

Мяйсцовая традыцыя ўважае, што царква ў Барысаве належыць да найстарэйшых на Беларусі, але пакольні сам Барысаў заснаваны толькі ў 1102 г. відавочна і царква паходзіць з гэтага часу, нажаль аб ёй няма фаховых вестак.

### Лагойскія сьвятыні.

Перад першаю сусьветнаю вайною ў Лагойску было чатыры царквы, якія лічыліся вельмі старымі, але няма дакладных вестак аб часу іх пабудовы і стылю.

## Наваградзкія сьвятыні.

Найстарэйшаю. хрысьціянскаю сьвятыняю ў Наваградку ёсьць **Барысаглебская** царква. Заснавана яна магчыма адначасна з самым Наваградкам каля 1044 г., але перараблялася два разы ў 1632 і 1866 гадох. У пляне гэта трынаўная сьвятыня з шасьцю слупамі ўнутры. Яе муры даволі тоўстыя і маюць бойніцы. Чамусьці да гэтага часу дасьледнікі археалёгіі ею замала цікавіліся.

## Тураўскія сьвятыні.

Пачатак Турава, падобна, як Полацку і Смаленску, губляецца ў цені вякоў. Біскупскі пасад у Тураве быў заснаваны ў 1005 г. і тады ўжо існавала **Барысаглебская катэдра,** пры ёй быў манастыр, у якім жыў прэп. Мартын. У XII в. каля Турава быў ужо другі манастыр, у якім жыў ведамы сьв. Кірыла Тураўскі. Археолёгічныя досьледы на Тураўскім замчышчы распачыналіся ўжо некалькі разоў, але ніколі ня былі даведзены да канца. Дасьледжана толькі верхні пласт замчышча, у якім выяўлена толькі частку фундамэнту царквы. Аб далейшых досьледах вестак няма (Гл. Крукоўскі А. — Старадаўні Тураў і яго ваколіцы «Наш край», Нр. 8-9 (11-12), Менск, 1926).

## Драгічынскія сьвятыні.

Стары Драгічын меў некалькі цэркваў, найстарэйшаю з іх рахавалася царква **Багародзіцы.** Потым яна была зусім зруйнавана. Рэшткі тэтых руінаў бачыў яшчэ Авэнаріюс, але досьледаў ніхто не рабіў.

## Пінскія сьвятыні.

У Пінску біскупскі пасад быў заснаваны ўканцы XI в., або найпазьней, у пачатку XII в., і тады-ж была выбудавана катэдра. Недалёка ад катэдры знайходзіўся манастыр, у якім жыў ведамы пінскі летапісец Мітрафан. Аб першапачаткавым выглядзе катэдры мала што можна сказаць, бо яе грунтоўна перароблена за часоў Вітаўта. Паважнейшых археолёгічных досьледаў да гэтага часу ў Пінску ня было.

## Горадзенскія сьвятыні.

Найстарэйшая хрысьціянская сьвятыня ў Горадні была збудавана на Замкавай гары. Гэта так зв. **Ніжняя царква.** Некаторыя дасьледнікі схільныя ея лічыць агулам найстарэйшаю мураванаю сьвятыняю на Беларусі, іншыя час яе пабудовы перасоўваюць на пачатак XII в. Апошняя справаздача з раскопак на Замкавай гары ў 1949 г. сьцьвярджае, што Ніжняя царква ёсьць першым мураваным помнікам, які агулам зьявіўся ў Горадзеншчыне. Прастаяла яна нядоўга, бо ў 1183 г. ад грому згарэла Горадня і ў тым ліку царква, а потым ў 1241 г. канчаткова зруйнавалі ея татары. Царква была невялікаю, падаўгастаю (16, 9 м.). Унутры мела шэсьць слупоў, але два з іх, аўтарныя, былі шмат танчэйшыя, чым заходнія, гэта сьведчыць аб тым, што купал знаходзіўся над заходняй часткай будынку. Апсыда была адна і мела тую асаблівасьць, што была ўбудавана ў сярэдзіну сьвятыні. Сьцены параўнаўча тонкія 1,06 м. Рагі будынку ня маюць лапатак і да таго яшчэ зрэзаны пад кутом 45°. Толькі на восях слупоў у сьценах ёсьць лапаткі з заакругленымі кантамі. У паўднёва-зах. кутку знаходзілася быццам умураваная клетка, тут былі крутыя мураваныя сходы, якія вялі на хоры. Цэгла азначаецца сваею тонкасьцю, амаль такая-ж, як і пласт вапны. Фасад царквы быў багата ўпрыгожаны паліванымі пліткамі зялёнага колеру і ўстаўкамі вялікіх шліфаваных каменьняў. Рэшткі сьцен, якія нядаўна выкрыта ў раскопках, і на якіх чырвоныя смугі цэглы чаргуюцца з белымі смугамі вапны і пераплятаюцца з яскравымі колерамі пліткаў і мігцячымі колерамі шліфаваных каменьняў,



**Плян Ніжняе царквы на горадзенскім Замчышчы паводля Я. Войцеховскага (Укосьная лінія, гэта фундамант пазьнейшае будовы).**



Плян Барыса-Глебскае **царквы на Каложы паводля В. С. Суслова.**

сьведчаць аб выключнай прыгожасьці сьвятыні. Падлога так-жа была памастацку вылажана паліванымі пліткамі, асабліва ў аўтары.

Паважнае мейсца ў гісторыі беларускага рэлігійнага будаўніцтва займае **Барысаглебская,** або **Калажанская** царква. Дата яе пабудовы дакладна ня ўсталеная. Былі весткі, што быццам хтосьці меў знайсьці на адной цэгліне з гэтае царквы дату 1064, але тады ў Горадні ня было яшчэ князёў, дзеля гэтага больш праўдападобна, што яе выбудавалі князі Барыс і Глеб Усеваладавічы, якія княжылі ў Горадні ад 1142 г. Да нашых часоў Калажанская царква захавалася ў напоўразваленым стане. 1853 г. 1-га красавіка яе паўднёвая сьцяна, разам з падмытым берагам, абвалілася ў Нёман. Калісьці гэта была чатырохстоўпная сьвятыня з трымя апсыдамі і трымя купаламі. Стаўпы ў ёй круглыя, нутро вельмі прасторнае і акустычнае, бо ў сьценах ёсьць шматлікія адтуліны-галасьнікі, утвораныя замураванымі збанкамі. Хораў ня было, праўдападобна іх замянялі дзеравянныя вышкі ўздоўж трох сьцен. Падлога выслана жоўтымі і зялёнымі паліванымі пліткамі. Дах калісьці быў накрыты паліванаю чарапіцаю. Вонкавы выгляд царквы азначаўся багацьцем і красою. Фасад дзяліўся плоскімі лапаткамі з закругленымі кантамі, вуглы царквы былі зрэзаны, а сьцены ўпрыгожаны шліфаванымі каменьнямі і крыжамі, вылажанымі з паліваных плітак. Цэгла была тонкая, але вельмі моцная і часам мае на сабе знакі цагляр'няў.

Калі прыраўняць Калажанскую царкву да Ніжняе на Замкавай гары, дык адразу ўбачым, што яны маюць шмат супольных асаблівасьцяў, гэта змушае нават сучасных расейскіх дасьледнікаў старасьветчыны заявіць: «Памятнікі Горадні з XII в. на толькі сваеасаблівыя ў сваіх будаўнічых норавах і ў сваёй багатай шматколернасьці вонкавага ўпрыгожаньня, што падобную шматколернасьць расейская архітэктура мела толькі ў XVI-XVII в.в., дзеля гэтага можна з поўным правам гаварыць аб апрычонай горадзенскай архітэктурнай школе XII в. Паасобныя рысы яе памятак збліжаюць іх да памяткаў Смаленска і Полацка... створаныя тут будынкі зусім арыгінальныя і ўражаюць сваею яскраваю прыгажосьцю, глыбока адрозьніваюцца ад старога стылю, пераказанага кіева-бізантыйскімі «ўзорамі» (Воронин и Крагер. История культуры древней Руси, т. II, с. 278). На іншым мейсцы Воронін кажа: «Дэкоратыўнае багацьце горадзенскіх памятак ня мае сабе роўных».

### Менскія сьвятыні.

Ад калі Менск стаўся сталіцаю асобнага княства, г. зн. ад XII в. у ім былі пабудаваны мураваныя сьвятыні, але назовы іх да нас не дайшлі. Вельмі старымі лічыліся мужчынскія манастыры: **Сьв. Духаўскі, Кузьма-Дзямянскі** і **Пётра-Паўлаўскі,** а так-жа жаночы манастыр **сьв. Духаўскі** — але час іхняга паўстаньня не азначаны.

Ад 1944 г. вядуцца раскопкі Менскага Замчышча і ў 1949 г. яны выявілі частку фундамэнту найстарэйшае менскае царквы з XII в. Была абследавана толькі дзесятая частка фундамэнту. У руінах знойдзена шмат вапенных плітак, дагадваюцца, што яны замянялі цэглу. Царква была аднаапсыдная. У аўтарнай часьці знойдзена два гробы прыналежныя да князёўскае сям'і.

---

Аб іншых гарадох Беларусі, якія паўсталі і разьвіліся пасьля XII в. тут не ўспамінаецца нічога, але так-жа не ўспамінаецца нічога і аб тых старых беларускіх гарадох, якія яшчэ чакаюць сваіх дасьледнікаў.

**а. Л. Гарошка.**

# Сьв. Тамаш Мор

**муж стану і мучанік за каталіцкую веру.**

### Раньнія гады.

Сьвяты Тамаш Мор, або інакш Морус, радзіўся 6-га лютага 1478 г. у Лёндане. Ягоны бацька быў судзьдзёю ў адным з найпаважнейшых судоў Лёндану. Ён быў жанаты 4 раза. Тамаш быў сынам з першага, або другога сужэнства. У адносінах да сваіх мачахаў захоўваўся прыкладна. Апошняя з іх перажыла Тамаша і пазбавіла яго большае часткі бацькавага насьледзтва, дзеля гэтага потым пасьля рэзыгнацыі са становішча канцлера цярпеў матэрыяльную нястачу і тады хваліўся сваею «ганароваю бядотаю» дзякуючы мачасе, «чыё жыцьцё і здароўе хай захавае Госпад на доўгія годы». Але аб гэтым будзе гутарка потым, цяпер-жа зазначым, што бацька і сын да канца жыцьця жылі ў вялікай згодзе. Будучы канцлерам, Тамаш меў звычай, перад кожнаю справаю заходзіць да бацькі і на каленях прасіць ягонага багаславеньня. На шчасьце бацька не дажыў таго часу, каб бачыць мучаніцкую сьмерць свайго сына.

Пачатковую асьвету Тамаш атрымаў у школе сьв. Антонія ў Лёндане. Гэтая школа мела найлепшую славу ў каралеўстве і больш, як двухвяковую традыцыю. Асьвета ў XV в. азначала ўменьне чытаць, пісаць і перадусім дыспутаваць па-лаціне. Гэтае апошняе сьледнае ў творах Мора.

Калі Тамашу споўнілася 12 гадоў, дык дзякуючы пратэкцыі свайго бацькі, ён быў прыняты на службу ў двор кардынала Мортона. Практыка аддаваньня дзяцей на службу ў другія дамы, па-

ходзіла з часоў рыцарства. Гэта была своеасаблівая школа, дзе маладыя людзі ў характары пазя вучыліся ўсяго таго, што ім потым магло спатрэбіцца ў вялікасьвецкім жыцьці.

Няма сумніву, што малады Тамаш скарыстаў вельмі шмат за час свайго быцьця на двары кардынала. У той час Мортон быў Кантэрбэрыйскім архібіскупам і канцлерам каралеўства, а гэта зн. другою асобаю пасьля караля ў цэлай Англіі, дык ягоны дом быў найлепшым мейсцам, дзе можна было навучыцца добрых манераў абыходжаньня з людзьмі, якімі пасьля вызначаўся Мор праз усё жыцьцё. Кардынал Мортон заўважыў вялікія здольнасьці свайго ўзгадаванца і, калі Тамашу споўнілася 14 гадоў, паслаў яго ў Оксфорд.

У тым часе прыгажосьць Оксфорду была нязвычайная, аднак жыцьцё студэнтаў ня было вельмі цікавае. Дзень студэнта выглядаў больш-менш такім чынам: а 5-ай гадз. раніцы Служба Божая, ад 6 да 10 г. навука, пасьля абед, які складаўся з куска мяса і міскі зупы. Пасьля абеду зноў навука да 5 гадз. вечара, а потым вячэра ня лепшая, чым абед. Пасьля вячэры зноў навука да 9 або 10 гадз., калі студэнты, ня маючы апалу у пакоях, павінны былі шпацыраваць, каб крыху разагрэць адубелыя ногі, перад тым, як легчы спаць. Тут трэба заўважыць, што тагачасныя студэнты былі ў веку 14-16 гадоў.

У Оксфордзе Тамаш цярпеў вялікую матэрыяльную бядоту, ня меў нават грошай, каб папраўіць боты. Бацька чамусьці не рабіў нічога, каб памагчы сыну ў ягоным цяжкім матэрыяльным становішчы.

Нядоўга прабыў Тамаш у Оксфордзе, усяго няпоўных два гады, пасьля якіх, ён на жаданьне бацькі вярнуўся ў Лёндан, каб там студыяваць права. Не дзеля свае строгасьці бацька перарваў студыі Тамаша ў Оксфордзе, але дзеля таго, што ў тым часе Лёндан, а не Оксфорд быў цэнтрам сьвецкага інтэлектуальнага жыцьця. Оксфорд і Кэмбрыдж давалі перадусім будучых сьвятароў. Але амбіцыяй тагачасных бацькоў было вывесьці свайго сына на праўніка, а да гэтага былі найлепшыя магчымасьці ў Лёндане.

З матэрыяльнага гледзішча пасьля Оксфорду для маладога Тамаша жыцьцё у Лёндане было арыстакратычным комфортам.

Пасьля двох гадоў студыяў, маючы ўсяго 18 гадоў, Тамаш здабыў так вялікія веды права, што быў прыняты ў слаўную юрыдычную Калегію Лінкольна і там прадаўжаў сваю навуку пад строгім вокам свойга бацькі.

У 1499 г., калі Тамашу было 20 гадоў' у Англію прыехаў Эразм Роттэрдамскі. Тамаш Мор і Эразм спаткаліся і, ня гледзячы на розьніцу веку, шчыра пасябраваліся на ўсё жыцьцё.

Нутранае жыцьцё Мора ў часе студыяў права ня было спакойным. Ён стаяў на раздарожжы ў выбары свайго жыцьцёвага шляху: у душы ён адчуваў пакліканьне да сьвятарства, але бацька хацеў бачыць яго праўнікам. Будучы студэнтам права, ён чатыры гады жыў у Картузіянскім манастыры і ўдзельнічаў у рэлігійных практыках манахаў, паколькі на гэта дазвалялі яму ягоныя студыі. Адначасна ён шмат вучыўся пабочна. Галоўным прадметам ягоных студыяў былі айцы Царквы і грэцкая мова. Бацька, заўважыўшы гэта, занепакоіўся, што сын адрываецца ад права і зарэагаваў на гэта на свой лад, абразаючы сыноўскія даходы. Тамаш ня стаўся сьвятаром, але не дзеля настойваньня бацькі ён зрабіў такі выбар. Жывучы ў манастыры, ён паддаў сябе строгаму экзаміну, каб пераканацца ,ці мае даволі сілы стацца добрым сьвятаром праз усё жыцьцё. Выявіўшы, што ня зможа вырачыся моцнага жаданьня да сямейнага жыцьця, ён пастанавіў пасьвяціцца сьвецкай кар'еры. Маючы 27 гадоў, ён жэніцца з Джэйні Кольт, дачкою зьбяднелага шляхціца. Іхняе сямейнае жыцьцё было вельмі шчасьлівае і яны мелі чацьвёра дзяцей.

У 1509 г. адбылася ў Англіі важная падзея; 27 красавіка памёр кароль Гэнрык VII, а наступнага дня абняў каралеўскі пасад, ягоны сын Гэнрык VIII.

### Першыя гады панаваньня Гэнрыка VIII.

Мусіць у гісторыі ня было другога такога чалавека, на якога людзі пакладалі-б так шмат надзеяў, як на Гэнрыка VIII і які ўканцы так страшна расьсеяў-бы гэтыя надзеі. Усе спадзяваліся, што з уступленьнем на пасад Гэнрыка VIII для Англіі настане залаты век спакою, дастатку і росквіту навукі, аб якім лятуцелі лепшыя людзі таго часу.

Тамаш Мор, разам з іншым, быў рады маладому каралю. У ягонай радасьці, акрамя агульных спадзяваньняў, была і асабістая прычына. У 1504 г. Мор, маючы 26 гадоў, быў выбраны ў Парлямант, скліканы Гэнрыкам VII, каб атрымаць грошы, патрэбныя для ўрачыстага пасаваньня на рыцара сына Артура і на вясельле дачкі Маргарыты з шкоцкім каралём. Спадзяваных грошай кароль не атрымаў дзякуючы Тамашу Мору, які супрацівіўся каралеўскім плянам вельмі моцна і пацягнуў за сабою ўвесь парлямант. Ад гэтага часу «безбароды хлопчык з парляманту» трапіў у няласку і жыў пад заўсёдным страхам каралеўскае помсты. Дык ня дзіва, што сьмерць Гэнрыка VII прынясла яму вялікае аблягчэньне. Незалежна ад гэтага Мор радаваўся новаму каралю, бо ў ім спадзяваўся ўбачыць справядлівага валадара, абаронцу веры і мэцэнаса навук.

Тагачасная Англія была краем вялікае цывілізацыі і вялікага мастацтва, аб гэтым сьведчаць шматлікія помнікі. Праўда вялікіх пісьменьнікаў і паэтаў яна тады ня мела, але затое высока стая-

ла яе навука, а на Гэнрыка VIII пакладалі надзею, што ён прычыніцца да яе большага ўздыму. Калі аднак глянуць на канец ягонага панаваньня, дык прыходзіцца сьцьвердзіць, што ён зьнішчыў больш мастацкіх цэннасьцяў, зламаў больш талентаў, чым які іншы тыран у сьвеце. Як зьнішчальнік, ён асягнуў вялікі рэкорд.

Вернемся аднак да гісторыі Мора. У 1510 г. ён быў назначаны адным з чатырох пад-шэрыфаў Лёндану, што адказвае больш-менш становішчу міравога судзьдзі. Гэтае становішча прынясло Мору славу справядлівага і добрага судзьдзі. Тагачасныя хронікі кажуць, што ніхто перад ім не палагодзіў больш справаў і ніколі перад ім ня было больш справядлівага судзьдзі, як Мор. Гэтае становішча ён займаў да 1518 г., калі быў пераведзены на каралеўскую службу.

У 1511 г. Мора спаткала вялікае няшчасьце, памерла ягоная каханая жонка Джэйні. Каб забясьпечыць дзецям дагляд, ён жэніцца другі раз. Яго другая жонка Аліса Мідлетон была ўдавою па лёнданскім купцу і была ўжо ў старэйшым веку, але была прыкладнай жонкай, маткай і гаспадыняй. Яе дачка з першага сужэнства гадавалася разам з дзяцьмі Мора ў найбольш прыкладнай згодзе.

Тымчасам слава Мора расла, аб ім даведваецца кароль і пачынае рабіць стараньні, пераве́сьці яго на службу ў свой двор. 8-га траўня 1515 г. Лёнданскі магістрат дазволіў Мору вызначыць заступніка на сваё мейсца судзьдзі, на час пакуль ён будзе каралеўскім амбасадарам у Фляндрыі.

Мор так добра выканаў сваю амбасадарскую службу, што кароль пачаў націскаць на яго яшчэ мацней, каб перайшоў на каралеўскую службу, уважаючы, што такі чалавек ня можа марнавацца на становішчы судзьдзі.

Першая амбасадарская служба Мора важная тым, што з ею зьвязана паўстаньне найбольшага літаратурнага твору Мора

## Утопія.

Твор гэты вышаў у 1516 г. і адразу зрабіў аўтара слаўным на ўвесь тагачасны культурны сьвет. Зьмест «Утопіі» у кароткіх словах такі: Мор прыпадкам у Фляндрыі стрэнуў вандроўнага партугальскага філязофа Рафаэля і той падрабязна расказвае яму, як ён з любові да навукі раздаў усю сваю маемасьць сваім братом, а сам падарожнічаў навокал сьвету. Расказвае Мору аб краінах, якія бачыў, аб правох і абычаях у тых краінах, што могуць быць прыкладам для Эўропы. Усе няшчасьці ў Эўропе, цьвердзіць Рафаэль, вынікаюць з прыватнае ўласнасьці. Мор супярэчыць яму, кажучы, што камунізм ёсьць нерэальны. «Гэта ты так кажаш, — адказвае Рафаэль, — таму, што ты ня бачыў яго ў практыцы, як я бачыў гэта ў Утопіі». І далей пачынае апісваць жыцьцё ў Утопіі. Гарады там прыгожыя і добра санітарна ўладжаныя. Шасьцігадзінны дзень працы хапае, каб забясьпечыць дастатак усім жыхаром. Утопіяне пагарджаюць золатам і матэрыяльнымі багацьцямі, але імкнуцца да шчасьлівага жыцьця, разумеючы, што шчасьце палягае на добрым здароўі і перадусім у прыемнасьцях розуму, з якіх яны найбольш цэняць чыстае сумленьне. Злачынствы караюцца перш турмою, а калі гэта не памагае — сьмерцю. Грамадзяне Утопіі хутка навучыліся ад Рафаэля грэцкае мовы, а нават частка з іх прыняла хрысьціянства. У Утопіі ёсьць шмат рэлігіяў, якія адносяцца да сябе талеранцыйна. За гвалт у рэлігійных справах пагражае найвышэйшая кара. Утопіяне пагарджаюць вайною, але ў выпадку небясьпекі ўсе мужчыны і жанчыны бяруцца за зброю. Калі хто з утопіянаў пасьля такога жыцьця не паміраў шчасьлівым, уважаўся за жалюгоднага нешчасьліўца.

Зразумела, што і філязоф Рафаэль і Утопія існавалі толькі ў фантазіі Мора (Утопія гэта грэцкае слова і даслоўна значыць — бяз мейсца). Аднак пераконваючая сіла кнігі была так вялікая, што некаторыя сапраўды паверылі ў існаваньне Утопіі.

Здаецца, што ў літаратуры няма другога такога твору, якога ідэю так кепска зразумелі-б, і так перакручвалі-б, як Утопію Мора. Сацыялісты і камуністы ўважаюць Мора за першага камуніста, які ў сваім творы намаляваў абраз ідэальнае сацыялістычнае дзяржавы. Пратэстанты ня могуць зразумець, як чалавек, які напісаў Утопію, ў якой грамадзяне зьяўляюцца паганамі, мог аддаць сваё жыцьцё за каталіцкую веру?

Усе гэтыя непаразуменьні вынікаюць з таго, што крытыкі часта забываюцца, што Мор жыў не ў 20-м, а ў 16-м стагодзьдзі. Тады людзі мелі яснае паняцьце розьніцы між цнотамі, якія можна асягнуць пры помачы людзкога розума і цнотамі, якія можна асягнуць пры помачы Каталіцкае Царквы. Разважнасьць, справядлівасьць, мужнасьць і ўстрыманасьць — могуць быць асягнуты кожным чалавекам пры помачы чыстага розуму і Плятон паклаў іх у аснову сваее рэспублікі. Затое Божыя цноты — вера, надзея і любоў бяз ласкі Божае неасягальныя. Ідэальны хрысьціянін павінен мець усе сем цнотаў, але для прыкладнага ўпарадкаванага дзяржаўнага жыцьця ў сьвецкіх справах выстарчыць мець першыя чатыры.

Вось Мор і аснаваў сваю Утопію на тых першых чатырох цнотах. Робячы гэта, ён астаецца консэквэнтным сваім каталіцкім прынцыпам. Мор выясьніў свай пункт гледжаньня так ясна, як толькі мог, і гэта не яго віна, што яго кепска зразумелі.

Ясьней гэта могуць выясьніць прыклады. Мы ведаем, што Мор сам вёў вельмі асцэтычнае жыць·

цё. Тымчасам у Утопіі мы чытаем, што тамтэйшыя грамадзяне дабравольнае фізычнае ўмерцьвленьне ўважалі за шаленства і жарстокасьць супраць самога сябе. Вось-жа выглядае, быццам ёсьць непасьлядоўнасьць між славамі і ўчынкамі Мора. Але чытаючы далейшыя радкі Утопіі, знаходзім выясьненьне, бо тамтэйшыя грамадзяне кіруюцца толькі розумам, а згодна з розумам такі пагляд на справу зусім разумны, **хіба што нешта вышэйшае будзе ім загадана з неба.** Адэтуль вынікае што ў Утопіі так жа ёсьць асцэтыка, але калі яна асноўваецца на розуме, дык людзі з яе сьмяюцца, калі-ж яна мае рэлігійную аснову, дык людзі яе паважаюць і лічаць за сьвятую рэч.

Тамаш Мор парушае ў Утопіі вельмі глыбока і рэлігійныя справы. Ён кажа, што там жывуць людзі розных рэлігіяў, але ў прыкладнай згодзе між сабою. Кароль Утопус талераваў усе рэлігіі, але ніхто з тамтэйшых грамадзян ня меў права ня верыць у дзьве рэчы: Божы правід і вечнае загробнае жыцьцё, дзе праведнікі будуць узнагароджаныя. Хто адкідаў хоць адзін з гэтых пунктаў, таго ня лічылі нават за чалавека і пагарджалі ім. А калі-б ён публічна прапагаваў свае пагляды, тады ўмешвалася дзяржава, якая карала яго, як злачынца. З гэтага глядзішча пагане ў Мора могуць быць прыкладам неаднаму непрактыкуючаму хрысьціяніну.

**А. Надсон.**

(Далей будзе)

## Як трывога, дык да Бога, а як па трывозе, дык і па Бозе

Дзядзька Якуб паехаў на начлег разам са сваімі суседзямі. Было гэта восеньню перад самай другой Прычыстаю. Здарылася неяк так, што перш, чым заснуць, Якуб заўважыў, што згубілася яго кабыла, хоць яна і ня была памаўзьлівая. Глянуў ён туды, глянуў сюды, няма нідзе кабылы. Прашвэндаўся ён з вечера аж да раніцы, абышоў, як кажуць, і Туркі баркі, і Воўча балотца, а кабылы як няма, дык і няма. Іншыя начлежнікі паўставалі ўжо і дамоў думаюць зьбірацца, папраўілі яшчэ толькі вогнішча і грэюцца, распраўляюць адрантвелыя рукі. Якуб у гэты час падышоў да вогнішча, змарыўся, зьнябыткаваўся і абрасіўся. Бядуе ён стоечы і кажа: «Вось каб Бог даў кабыла знашлася, дык-бы сёньня паставіў сьвечку ў царкве з конскую нагу». Калі ён гэта толькі сказаў, аж пачулася, як недалёка ад вогнішча порснула нечае каняне. «Ты глядзі, Якуб, ці не твая т'кі гэта там кабыла порснула, бо нашы коні ўсе на сенажаці на атаве», — азваўся сусед. Якуб борзьдзенька патрапаў туды. Праз нейкі час вядзе Якуб сваю кабылу да вогнішча, трымаючы яе за грыву, і зьлёгку лаецца: «Вось каб яе ваўкі зьелі, яна тут каля вогнішча крунііцца, а я, як той дурань, усю ноч прашвэндаўся і ўжо няма ведама што думаў». Якуб надзеў кабыле аброць, узлажыў дзяругу і разам з іншымі начлежнікамі паехаў дамоў.

Вечарам на Прычыстую гэтыя-ж самыя начлежнікі зноў прыехалі на тое самае мейсца на начлег. Папуталі коні, а самі разлажылі вогнішча, грэюцца і языкамі меньцяць. І вось сусед кажа Якубу: «Нешта я сёньня ня бачыў у царкве тваё сьвечкі з конскую ногу». «А нашто-ж я меў яе ставіць? — кажа Якуб. — Мая-ж кабыла і ня была згубілася». Начлежнікі пакладіся спаць, каб заўтра раней устаць, ды па пасаду, другім збожжа вымалаціць да сьнеданьня і каб раней у поле на бульбу мець час выйці. Рана паўставалі начлежнікі, пазабіралі коні і паехалі дамоў, а Якуб і сюды, і туды ходзіць, а кабылы, як няма, дык і няма .Ужо і разьвіднела, а Якуб усё шукае кабылы. Ідзе ён зьняможаны каля балота і сам сабе кажа: «Ну, каб даў Бог сёньня кабыла знашлася, дык-бы ўжо сапраўды паставіў у царкве сьвечку». І зараз-жа ён пачуў, як у імшарыне нешта затрашчала. Якуб бягом туды. І вось бачыць ён, што там ваўкі ўжо канчаюць яго кабылу, толькі адна нага засталася, якую воўк цягнуў далей у лес.

**Дзядок.**

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

**У СПРАВЕ МАНІФЭСТАЦЫЯЎ «ЗА МІР».**

Ад пару гадоў ня сходзяць з парадку дня розныя маніфэстацыі, зьезды, кангрэсы, дэклярацыі і пад. з мэтай «захаваньня міру». Таму што пераважна камуністычныя арганізацыі арганізуюць гэтыя імпрэзы і выкарыстоўваюць іх выключна для свае прапаганды і да гэтага стараюцца рознымі падступнымі спосабамі ўцягнуць у свой нерат царкоўны аўтарытэт, дык царкоўныя ўлады няраз мусілі сказаць сваё слова ў гэтай справе, якое ў асноўным заўсёды паўтарала думку Сьвяцейшага Айца Пія XII, што Каталіцкая Царква жадае міру, але сапраўднага міру і Яна непахісна верыць і вучыць, што мір не асягаецца рознымі дэклярацыямі, ці маніфэстацыямі, або пагрозамі ці зброяй, толькі справядлівасьцю ў грамадзкіх і палітычных адносінах .Дзеля гэтага каталіцкія біскупы апошнім часам штораз часьцей заклікаюць вернікаў ня прымаць ніякага ўдзелу ў камуністычных «маніфэстацыях міру», але шчыльней гуртавацца ў каталіцкай арганізацыі «Пакс Хрысті».

### ТЫДЗЕНЬ МАЛІТВЫ ЗА ЗЛУЧЭНЬНЕ ЦЭРКВАЎ.

Як штогод, так і сёлета ўва ўсім каталіцкім сьвеце між 18 і 25 студзеня арганізавана шматлікія канфэрэнцыі і ўрачыстыя багаслужэньні, каб вымаліць у Бога вялікія ласкі, патрэбныя для вялікае і сьвятое справы злучэньня Цэркваў.

Падобныя ўрачыстасьці адбываюцца штогод, пачынаючы ад 1909 г. і становяцца штораз больш актуальнымі, азначаюцца часьцейшаю і больш прыязнаю выменаю думак уплывовых рэлігійных дзеячоў.

### ЖАНАТЫЯ СЬВЯТАРЫ ЛАЦІНСКАГА АБРАДУ.

Уканцы мінулага году ў Нямеччыне перайшлі два пратэстанцкія пастары на каталіцызм і адначасна выявілі жаданьне стацца каталіцкімі сьвятарамі лацінскага абраду. Абодва яны былі жанатыя і ўжо ў пажылым веку. На просьбу нямецкіх біскупаў Сьвяцейшы Айцец здаводіў іхняе жаданьне. Падобныя выняткі ў традыцыі Каталіцкае Царквы лацінскага абраду нічуць ня ўплываюць на зьіначаньне абавязуючага права цэлібату.

### НОВЫ БІСКУП НЭГР.

Сёлета 10 лютага ў Тангнайцы адбылося пасьвячаньне Яго Эксц. Лёрэано Ругамбва. Новапасьвячаны біскуп ёсьць нэграм і прызначаны для кіраваньня апостальскім вікарыятам Букога. Першы біскуп нэгрыцянскага паходжаньня ёсьць Я. Э. Язэп Ківанука высьвячаны ў 1939 г.

### НАПАД НА БІСКУПА Ў ЮГАСЛАВІІ.

На люблянскага біскупа Я. Э. Воўка напала таўпа разагітаваных камуністаў, калі ён выходзіў са станцыі Новае Места, аблілі яго бэнзынаю і падпалілі. У цяжкім стане біскупа паравезена ў больніцу.

### НОВАЕ АБМЕЖАВАНЬНЕ.

Каталіцкае біскупства ў Бэрліне падало да ведама, што камуністычная ўлада забараніла ўступ для новых каталіцкіх сьвятароў у савецкую зону Нямеччыны. Каб належна ацаніць гэтую дэцызію камуністаў, трэба ведаць, што ў савецкай зоне Нямеччыны на два мільёны дзьвесьце тысяч каталікоў ёсьць толькі дзьве тысячы сьвятароў і няма ніводнае сэмінарыі.

### НОВАЯ ХВАЛЯ СУПРАЦЬКАТАЛІЦКАЕ ПРАПАГАНДЫ.

Ува ўсіх падсавецкіх краінах супрацькаталіцкая прапаганда стала штодзенным зьявішчам. Часад-часу ў газэтах зьўляюцца артыкулы з вострымі нападамі на Ватыкан і каталіцкае духавенства. Выдана цэлы рад кнігаў і брашураў прысьвечаных гэтаму пытаньню.

Характэрна, што цяпер усю супрацькаталіцкую і бязбожніцкую прапаганду даручана весьці Акадэміям Навук. У выкананьні гэтае праграмы і Акад. Наук БССР выдала кніжку П. Кірушына «Ватыкан на службе рэакцыі», але крытыка яе прызнала нездавальняючаю і недаапрацаванаю.

### СЬМЕРЦЬ ГРУЗІНСКАГА КАТОЛІКОСА.

Грузінскі праваслаўны патрыярх-католікос Калістрат (Цінцадзе) памёр дня 3-га лютага ў веку 86 гадоў. Пакойны ад 1945 г. быў у блізкай залежнасьці ад савецкага Маскоўскага патрыярха Аляксея.

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

## БАЦЬКАЎШЧЫНА.

### Новыя пляны адносна беларускае мовы.

Сёлета ўканцы студзеня адбылася ў Менску канфэрэнцыя мовазнаўчага адзьдзелу Акадэміі Навук БССР, у выніку якое параблена «шмат каштоўных заўваг» да «Праекту зьмен і ўдакладненьня беларускага правапісу», так паведамляе савецкая прэса. Ня цяжка дагадацца, куды гэтыя зьмены накіраваны. Пры гэтай нагодзе варта зацеміць, што тэтая-ж Акадэмія Нав. БССР вось ужо больш пяці гадоў ня можа ажыцьцявіць выданьня беларуска-расейскага і рас.-белар. слоўнікаў, якія мелі выйсьці ўжо ў 1948 г.

### Новы сьцяг БССР.

Менская «Зьвязда» з дня 28-XII-51 падала да ведама, што прэзыдыюм Вярхоўнага Савета БССР сваею пастановаю з дня 25-XII зьмяніла дагэтулешні чырвоны сьцяг БССР на чырвона-зялёны (трэцяя частка ўнізу) з беларускім нацыянальным арнамэнтам, разьмешчаным стоцьна ля дрэўца. Уласьцівых матываў гэтае зьмены не падаецца, прынагадна гаворыцца толькі, што гэта ёсьць сьведчаньнем новых посьпехаў у гаспадарчым, культурным і дзяржаўным развіцьці Савецкае Беларусі».

Летась падобная зьмена была зроблена з украінскім сьцягам. Гэткім чынам саветы стараюцца прыкрыць няпрыемную праўду аб поўным паняволеньні народаў у межах СССР.

### «Узбуйненьне калгасаў».

Савецкая прэса паведамляе, што ў БССР на пачатку 1951 г. быў 9.771 калгас, а ўканцы гэтага году з іх зроблена 3.279 калгасаў. Зразумела, што гэткую зьмену селяне зрабілі «зусім дабравольна».

Як выяўлена на VIII пленуме Камуністычнае партыі БССР, якая адбылася 24-26 студзеня, ка-

лектывізацыя ў Зах. Беларусі яшчэ не закончана і дзеля гэтага прынята пастанову «завяршыць калектывізацыю ў заходніх абласьцях Беларусі».

### Наступ на душу беларускае моладзі.

Сёлета 30 і 31 студзеня адбыўся ў Менску XVII зьезд камсамолу БССР. Пры гэтай нагодзе часта ўспаміналіся імёны ўсіх кіраўнікоў камсамолу БССР — амаль усе яны расейцы, пачынаючы ад галоўнага сакратара П. М. Мошерова і канчаючы на абласных сакратарох. Справаздача выяўляе, што ў 1950 г. было толькі 112.356 сяброў камсамолу ў БССР, а сёлета іх ужо налічвалася 511.090 — гэта значыць, што за адзін год іх лік больш, чым патроіўся. Прамова першага сакратара сьведчыць аб тым, што сёлета будзе весьціся далейшы ўзмоцнены наступ на беларускую моладзь, асабліва ў новазарганізаваных калгасах. Тут трэба дадаць, што ў сярэднім школьніцтве зарганізавана 800.000 піянэраў, гэта значыць больш, чым палавіна ўсіх вучняў у БССР.

## АНГЛІЯ.

### Тыдзень Студыяў БАКА «Рунь».

Управа Беларускага Каталіцкага Акадэмічнага Аб'еднаньня «Рунь» намеціла свой чарговы Тыдзень Студыяў пад клічам «Хрыстос — дарога, праўда і жыцьцё» зарганізаваць у Лёндане 20-27 ліпеня. Пры гэтай нагодзе мае адбыцца так-жа агульны зьезд названае арганізацыі.

### «Беларусь учора і сёньня».

Пад гэткім загалоўкам П. Сыч апублікаваў у часапісе «The Eastern Quarterly», Vol.V. № 1/2. 1952 інфармацыйны артыкул аб Беларусі. Аб тым, як вельмі патрэбны падобныя артыкулы, бачна нават са старонак названага часапісу, у якім спатыкаецца шмат артыкулаў прысьвечаных польскаму пытаньню з іхняга імпэрыялістычнага гледзішча.

## АРГЭНТЫНА.

### З жыцьця беларускае калёніі ў Аргэнтыне.

Згуртаваньне Беларусаў у Аргэнтыне ўжо чацьвёрты раз ладзіла супольнае сьвяткаваньне Каляд і Новага Году. З гэтае нагоды быў зарганізаваны дня 13 студзеня Вечар у летувіскім клюбе ў Буэнос Айрэс.

Прысутных прывітаў старшыня ЗБА Ул. Другавец, наступна багаславіў застаўлены стол а. Васіль Вячорко і разам з ім усе прысутныя адсьпявалі калядны трапар. У часе самое вячэры прамаўляў К. Мерляк, падчыркваючы значэньне супольнага сьвяткаваньня і а. В. Вячорко, заахвочваючы да захаваньня беларускіх хрысьціянскіх звычаяў.

Таго-ж дня беларуская аргэнтынская калёнія разьвіталася са сваім сябрам і былым сакратаром ЗБА Г. Юзэфовічам, які ад'яжджае ў Гішпанію на студыі ў Мадрыдзкі унівэрсытэт.

Бяседа праходзіла ў мілай сяброўскай атмасфэры і зацягнулася да позная ночы. Закончылася яна агульным адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гымну.

## АЎСТРАЛІЯ.

### Зьезд ЗБВ.

Згуртаваньне Беларускіх Вэтэранаў у Аўстраліі актывізуе што раз больш сваю працу. На сваім зьезьдзе дня 6 студзеня г.г. у Брысбане, абгаварыўшы рад бягучых справаў і выслухаўшы рэфэрат аб «Беларускіх збройных сілах», пастаноўлена заснаваць адзьдзел ЗБВ у Зах. Аўстраліі з аседкам управы ў Брысбане. У склад управы адзьдзелу ўвайшлі: старшыня — М. Раецкі, сакратар — Н. Лейко. Пастаноўлена так-жа павялічыць рады ЗБВ.

### На выдавецкай ніве.

Сёлета ад студзеня месяца Згуртаваньне Беларускіх Вэтэранаў у Аўстраліі пачало выдаваць ратататарным спосабам невялікі месячны бюлетэнь «Лучнік».

## БЭЛЬГІЯ.

### Беларускі канцэрт у Бруксэлі.

Беларускі Студэнцкі Ансамбль пад кіраўніцтвам кампазытара М. Равенскага быў запрошаны на 10-га лютага, выступіць з беларускім канцэртам у Бруксэлі. Уступнае слова перад канцэртам сказаў а. Робэрт Ван Ковэлерт, у якім коратка пераказаў гісторыю Беларусі, яе росквіт за часоў Вял. Княства Літоўскага і няроўнае змаганьне з рознымі наезьнікамі. Паясьніў моўныя і тыпалягічныя своеасаблівасьці беларускага народу. Уканцы схарактэрызаваў адраджэнскую беларускую працу.

Сам канцэрт складаўся з двох частак. На праграму першае часткі зложыліся рэлігійныя песьні, а праграму другое часткі запоўнілі беларускія народныя песьні і танцы. Захапленьне публікі было на толькі вялікае, бравы і бісы пасьля выкананьня бальшыні нумароў паўтараліся так часта, што выканаўцы ўканцы мусілі прасіцца ў публікі, мецъ літасьць на іх перамучаньне.

Канцэрт быў нагараны на плёнку і будзе паўтораны ў бэльгійскіх школах. Адразу пасьля канцэрту Ансамбль запрошана на некалькі выступаў у розных большых гарадох Бэльгіі. Канцэрт мае быць яшчэ раз паўтораны ў Бруксэлі ў найбольшай салі.

### Гадавы Сход СББ.

У нядзелю 3-га лютага адбыўся ў Лювэне гадавы сход Саюзу Беларусаў у Бэльгіі. Пасьля справаздачы ўступаючае ўправы і справаздачы Рэвізійнае камісіі, абмяркавана плян працы на бягучы год і выбрана новую ўправу, у склад якое

ўвайшлі: старшыня — а. Аўгень Саршчок, заступнік старшыні — В. Кіпель, сакратар — П. Урбан.

## ГІШПАНІЯ.

### Супольныя рэкалекцыі.

Беларускія студэнты разам з гішпанскімі ды іншанацыянальнымі студэнтамі і акадэмікамі адбылі між 17 і 22 сьнежня м. г. супольныя рэкалекцыі ў доме Чамартэн дэ Роза пад Мадрыдам. Рэкалекцыямі кіраваў а. Альбэрто дэ Кастро Тагле.

### Інфармацыі аб Беларусі.

У сьнежні мінулага году праф. Паўло Тіхан (харват) прачытаў цэлы рад рэфэратаў у гішпанскай мове ў мадрыдзкім культурным інстытуце «Атэнэо» на тэму: «Славяне і эўрапэйская культура». У сваіх дакладах прэлегэнт падаваў даволі абшырныя весткі аб Беларусі, яе гісторыі і значэньні ў славянскай групе народаў.

### Артыкул аб Беларусі.

У сёлетнім лютавым нумары гішпанскага часапісу «Носотрос», органе калегіі сьв. Якава ў Мадрыдзе, надрукаваны інфармацыйны артыкул аб Беларусі Ул. Рыжага-Рыскага.

## З. Ш. А.

### Дзень беларускіх гэрояў у Нью-Ёрку.

Першы раз на амэрыканскай зямлі беларусы так урачыста абходзілі памяць сваіх паўшых гэрояў, як гэта зрабілі летась у Нью-Ёрку, азначаючы 31-ыя ўгодкі Слуцкага паўстаньня.

Там з гэтае нагоды дня 1-га сьнежня прамаўляў праз Нью-Ёрскае радыё гэнэрал Фр. Кушаль. Пасьля яго прамовы беларускі хор пад кіраўніцтвам кампазытара М. Куліковіча выканаў некалькі беларускіх народных і ваяцкіх песень. Наступнага дня ў нядзелю яп. Васілі адслужыў у беларускай праваслаўнай царкве паніхіду за палёглых гэрояў. Папалудні таго-ж дня ў перапоўненым вялікім доме старое беларускае эміграцыі ў Нью-Ёрку адбылася жалобная акадэмія. Пасьля першае часткі, якая складалася з прамоваў беларускіх дзеячоў, адбылася мастацкая частка акадэміі з багатай харавой і салёвой праграмаю беларускіх народных і ваяцкіх песень і песень беларускіх кампазытараў. Акадэмія зрабіла на ўсіх прысутніх і прыемнае і магутнае ўражэньне.

### Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва.

З ініцыятывы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня 16-XII м. г. у Нью-Ёрку адбыўся сход беларускіх навуковых і культурных працаўнікоў, на якім быў закладзены Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва. Выбрана часовы ўрад Інстытуту і яму даручылі правесьці ўлік беларускіх літаратурна-мастацкіх і навуковых кадраў на эміграцыі, парабіць захады, каб іх скааптаваць у сябры Інстытуту, апрацаваць канчатковы тэкст статуту і склікаць першы гадавы сход для зацьверджаньня статуту і выбару сталых уладаў Інстытуту.

На ўрачыстасьці адкрыцьця былі прысутныя госьці, ад беларускіх і іншанацыянальных арганізацыяў, якія прывіталі новазарганізаваную беларускую ўстанову.

### Беларускі навуковы часапіс.

Новапаўсталы Беларускі Інстытут Мастацтва і Навукі прыступіў да выдаваньня свайго друкаванага органу Беларускага Навуковага Квартальніка. Рэдакцыйная калегія выдала зварот у гэтй справе да навуковых працаўнікоў беларусаведы на эміграцыі з просьбаю супрацоўніцтва і падтрыманьня.

### У радох АБЛЧ.

Абежнік Аб'еднаньня Беларускіх Лекараў на Чужыне Нр. 49 паведамляе, што ўправа названае арганізацыі парабіла захады для актывізацыі свайго арганізацыйнага жыцьця.

### Зварот да ААН супраць гэносыдызму ў БССР.

Выконваючы пастанову, прынятую 11-XII-51 на 6-ай сэсіі Рады БНР, яе старшыня выслаў гэнэральнаму сакратару Асамблеі Аб'еднаных Нацыяў зварот, каб ААН зарганізавала Міжнародны Камітэт для разгледжаньня справы гэносыдызму ў БССР.

### У Чыкаго.

Дня 13-1 г.г. адбыўся гадавы сход Беларуска-Амэрыканскае Нацыянальнае Рады ў Чыкаго. Справаздача ўступаючае ўправы выказала, што за мінулы год рады БАНР значна пабольшыліся і тым самым была створана магчымасьць пашырыць арганізацыйную працу. Уканцы выбрана новую ўправу ў такім складзе: старшыня — Я. Чарапок-Змагар, першы заступнік — Ал. Салавей, другі заступнік — В. Пануцэвіч, сакратар — А. Бяленіс, скарбнік — Ал. Якімовіч, сябры ўправы — Я. Ліманоўскі, У. Скарына і У. Багдановіч.

## КАНАДА.

### Мастацкія выступленьні.

У канцы мінулага году гурток мастацкае самадзейнасьці Беларускае Народнае Песьні і Танцу пры Беларускім Нацыянальным Камітэце ў Віньніпэгу некалькі раз выступаў у Віньніпэгу з беларускімі песьнямі перад канадзкімі, а так-жа іншанацыянальнымі слухачамі. Асобна некалькі раз выступаў малады, але ўжо шырока ведамы беларускі сьпявак Міхась Радчанка. На асаблівую ўвагу заслугоўвае ягоны выступ з беларускімі калядкамі ў Канадзкім радыё 24-XII.

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris

Directeur : Abbé L. Horosco.

**На выдавецкай ніве.**

Монтрэальскі адзьдзел Згуртаваньня Беларусаў у Канадзе выдаў уканцы мінулага году ратарным друкам «Беларускі песеньнік» з нотамі і «Малітву» муз. І Пауловіча.

**КІТАЙ.**

**Доля а.а. Марыянаў.**

Ужо два гады таму назад у «Божым шляхам» была надрукавана кароткая зацемка аб арышце беларускіх айцоў Марыянаў у Харбіне. Пару месяцаў таму ў шматлікіх газэтах была падана вестка аб арыштаваньні камуністычнаю кітайскаю ўладаю 13 каталіцкіх ерархаў і між імі ўспамінаецца Яго Эксц. Андрэй Цікота апостальскі адмінастратар у Харбіне. Дадаткова даведваемся ад місіянароў, якія нядаўны былі выселены з Кітаю, што беларускія айцы Марыяне былі доўгі час пад арыштам у іхным доме ў Харбіне, а потым вывезены ў Сібір і частка іх яшчэ ў мінулым годзе працавала ў канцэнтрацыйным лягэры ў лесе ля самае манджурскае граніцы.

# Абразкі з жыцьця

## У ІМЯ ХРЫСТА.

Летам 1944 г. прыпадкам мне давялося стрэнуць на вуліцах Бэрліну душпастыра аднае каталіцкае больніцы. Даведаўшыся, што я беларус, ён адразу запрашае мяне ў сваю больніцу, адведаць там аднаго краяна, які чуецца вельмі блага.

Неадкладна карыстаю з запросін і ў азначанай больніцы хутка знаходжу свайго суродзіча з-пад Магілёва ў жалюгодным стане. Каля ложка хворага сядзіць яго жонка і насаткаю выцірае буйныя сьлёзы.

З цяжкасьцю навязваю гутарку і даведваюся, што яму часта бяруць кроў для аналізы, бо мае аж некалькі хваробаў адначасна, а ён уважае быццам крадуць ягоную кроў для фронту. Слоў суцяшэньня і слухаць ня хоча.

Прыгноблены сумным відовішчам, выходжу на карыдор і там сустракаю дыжурную сястру-манашку, ня помню ўжо якога чыну. Яна добра ведае недавер хворага да больнічнае абслугі і сьведамая, што гэта абцяжвае лячэньне. Тлумачу ёй, што такому стану рэчаў няма чаго дзівіцца, бо хворы паходзіць з тае краіны, дзе хлусьня ўжо пануе доўгія гады і дзе людзі былі стрэнулі немцаў, як вызвольнікаў, але вельмі горка ашукаліся на іх. Уканцы дадаю:

— Самі-ж бачыце, вось гэтага чалавека ўзялі з Беларусі, як работніка, а тут у лягэры «Остаў» трымалі, як нявольніка.

— Я разумею, — адказвае сястра ціхім голасам, — яму патрэбны ня пустыя словы суцяшэньня, а нешта больш.

Разьвітваюся з ёю і абяцаю хутка зноў прыйсьці адведаць хворага.

Але якое-ж было маё зьдзіўленьне, калі ў наступным тыдні я проста не пазнаў майго суродзіча. Ён быў жыцьцярадасны і поўны надзеі на хуткае аздараўленьне.

— Ойчанька, даражэньні, гэта-ж паверыце, як я памыліўся; тая сястра, на якую я так наракаў, мне дала паўлітра свае крыві... паўлітра крыві! Сама-ж яна ня шмат мае тае крыві, а вось каб выратаваць мне жыцьцё, дала сваю кроў і зусім задарма. Ойча, яшчэ варта жыць, калі ёсьць на сьвеце хоць некалькі такіх добрых душ!..

Перад тым, як выйсьці з больніцы, знаходжу сястру і дзякую ёй, але яна перабівае мяне.

— Ойча, мне падзякі ад людзей ня трэба, бо я, што зрабіла, дык у імя Хрыста зрабіла.

Цаною крыві яна вярнула веру і жыцьцё хвораму і чужому для яе чалавеку.

**а. Х. У.**

## ТАЕМНАЕ ЗДАРЭНЬНЕ.

У Дюнкерку падчас апошняе вайны злажыла жыцьцё шмат жаўнераў, — яны былі пахаваны недалёка ад руінаў гораду. Між імі знайходзіўся англійскі падафіцэр Тадэй Ватсон. Ягоная 72 гадовая маці хацела перавесьці тлённыя рэшткі сына на бацькаўшчыну, але не магла іх знайсьці ў бязіменных магілах. Гэта збольшвала боль яе мацярынскага сэрца але адначасна пубуджала да гарачае малітвы. Аж аднае ночы яна сьніць, што ўвайходзіць праз малую калітку на магільнік, там бачыць доўгія рады дзеравянных крыжоў. Яна затрымоўваецца перад другою магілаю скраю і на крыжы заўважвае абраз свайго сына. Праз колькі дзён пасьля гэтага сну маці паехала ў Дюнкерк, адведала магільнік і пастаралася атрымаць дазвол раскапаць другую магілу ў першым радзе. У магіле ля цела пакойніка маці знашла добра ведамую цыгарнічку сына і некалькі быццам зусім сьвежых ягоных фатаграфіяў.

## РОЗНЫЯ ДАРОГІ ВЯДУЦЬ ДА БОГА.

Вясною 1942 г. у Наваградку часта заходзіў у царкву савецкі афіцэр і на зьдзіў усіх прысутных, шчыра маліўся. На запытаньне цікавых, адкуль у яго такая моцная вера, гаварыў:

«Багаслоўскіх доказаў існаваньня Бога я ня ведаю, але аб тым, што ёсьць Бог, я пэўны больш, чым тое, што вас перад сабою бачу. А ўпэўніўся я аб гэтым на фінскім фронце. Там нашых жаўнераў гінула шмат. І калі мой адзьдзел накіравалі ў атаку, гэта для мяне было быццам прызначаньне на сьмерць. Перад выхадам з акопаў я пачаў голасна маліцца, прыпамінаючы даўно не адмаўляную малітву «Ойча наш». Некаторыя з суседзяў пачалі рабіць тое самае, а іншыя сьмяяліся. І вось, калі мы вярнуліся з атакі, дык усяго тыя асталіся жывыя, што маліліся, усе іншыя загінулі. Дык ці-ж пасьля гэтага я магу ня верыць ў Бога?!»